Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1747) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 5 ЛІСТАПАДА 1989 г. Цана 150 зл.



Рыбаловы. Фота Я. Целушэцкага

## З ДРУКУ

### СЕНАТАР АБ БЕЛАРУСАХ

У 243 нумары „Газеты Всполчэснай“ ад 19 кастрычніка г.г. змешчана інтэрв'ю Людмілы Халецкай-Палоцкай „Улада — гэта мы!“ з сенатарам, праф. Анджэем Каліцінскім з Беластока. Сенатар А. Каліцінскі вырашэнне беларускага пытання бачыць такім спосабам:

„У нашым рэгіёне мае яна (нацыянальная спецыфіка — рэд.) важнае значэнне. Існуе тут праблема нацыянальных меншасцяў. Пражываюць тут, між іншым, беларусы. Мы мусім навучыцца жыць з імі дружалюбна. Тое ўсё, што рабілася да гэтай пары, было адзінай вялікай памылкай. Мы мусім тое цяпер выправіць.

Толькі, напрыклад, калі будзем беларусам даваць штосьці ў дары, то заўсёды будзе гэта дар. Паспрабуйма інакш. Няхай яны атрымаюць уладу ў гэтых сваіх гмінах і вёсках, дзе пражываюць, няхай вырашаюць аб сваім лёсе! Няхай кіруюцца самі!

Думаю, што гэта самы лепшы спосаб вырашэння нацыянальных пытанняў. Дарэчы, не толькі ў нас. Калі б той спосаб выконваўся ў мінулым, не было б, напрыклад, ні ірландскай праблемы, ні баскаў.

Лічу, што няма адрозненняў паміж людзьмі, ні рэлігійных, ні нацыянальных. Ёсць толькі пошаныя ў душах традыцыі, з якімі кожны мае права жыць.

Гэта, зразумела, таксама справа для тэрытарыяльнай самаўправы. Таму істота стварэння новай улады засяроджваецца ў самаўправах, у дэмакратыі“.




(У НОВЫ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ГОД)

— Адкрываючы новы культурна-асветніцкі год у дзейнасці БГКТ, прапаную яму назву „Год супрацоўніцтва“, — сказаў 15 кастрычніка старшыня Беларускага таварыства Аляксандр Баршчэўскі. — Маю надзею, што гэта не будзе пустая назва. Стварыліся ўмовы дзеля таго, каб БГКТ магло супрацоўнічаць у культурна-асветніцкай галіне як з БССР, так і з беларускай эміграцыяй ва ўсім свеце.

Коратка прыгадаўшы папярэднія замежныя кантакты Таварыства, якія былі далёкія ад задавальняльных, А. Баршчэўскі ўказаў на тое, што змянілася ў гэтай справе апошнім часам. Існуе сяброўская сувязь з Таварыствам „Радзіма“ ў Мінску. БГКТ і „Радзіма“ дамовіліся наконт бездэвізнага абмену экскурсіямі. Таварыства „Радзіма“ паспрыяла адкрыццю ў Мінску рахунку на фонд набудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Да гэтай пары на гэты рахунак пераведзены 44 тысячы рублёў. Ужо некалькі гадоў паступаюць ахвяраванні на пабудову музея ад беларускай эміграцыі. Сабрана каля 15 тысяч долараў. Амерыканскія беларусы рупяцца таксама пра збор грошай на абсталяванне беларускай друкарні на Беласточчыне.

— Нельга не заўважыць, што ўсё яшчэ мы не з'яўляемся роўнымі партнёрамі ў супрацоўніцтве з нашымі суродзічамі, — гаварыў Аляксандр Баршчэўскі. — Мы ўсё яшчэ выступаем у ролі папрашайкі, не надта ганаровай ролі. Але такія абставіны. Міне яшчэ крыху часу, пакуль мы зможам поўнасцю аддзячыць за прынесеную нам дапамогу.



Прысутны на адкрыцці новага культурнага сезону прарэктар Гродзенскага універсітэта і старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Савецкага фонду культуры Сяргей Габрусевіч у сваім выступленні выказаў за актыўную падтрымку развіцця беларускай культуры на Беласточчыне з боку ўстаноў і грамадзян БССР. Сваю дапамогу ахвяруе Гродзенскае аддзяленне СФК і Гродзенскі універсітэт.

— У Фондзе мы маем немалыя грошы, якія пераводзяць нам прадпрыемствы, калгасы, прыватныя асобы, — сказаў Сяргей Габрусевіч. — На Гродзеншчыне няма ні аднаго нерэнтабельнага калгаса. Мы маем сродкі, за якія хочам вам дапамагчы. Думаю, таксама, што Гродзенскі універсітэт у змозе браць на вучобу 5—10 чалавек штогод ад вас і запэўніваць ім поўнае ўтрыманне.

Паводле ранейшага пагаднення Сяргей Габрусевіч і Аляксандр Баршчэўскі падпісалі дагавор паміж Гродзенскім аддзяленнем СФК і БГКТ аб супра-

(Працяг на стар. 5)



Аляксандр Баршчэўскі і Сяргей Габрусевіч падпісваюць дагавор аб супрацоўніцтве паміж БГКТ і Гродзенскім аддзяленнем СФК.

## Пра нашых пісалі...

# БЕЛАРУСКАЯ ПАРТЫЯ АБО „САЛІДАРНАСЦЬ"

Чарговы агляд беларускай праблематыкі на старонках польскіх газет ды часопісаў трэба, відаць, пачынаць ад найпапулярнага ў краіне тыднёвіка „Палітыка" (і гэта не першы ўжо раз, дарэчы). У нумары ад трыццатага верасня Тадэвуш Пільх публікуе „Czy jesteśmy tolerancyjni?"

Пільх, адразу гэта бачнае, не з'яўляецца беластоцкім задрыпанікам, які выдае сябе за лепшага інтэрнацыяналіста, непісьменна блытаючы патрыятычнае з нацыяналістычным. Адказ на пытанне, выведзенае ў загаловак артыкула, дае ён, фактычна, кароткі: палякі перасталі быць народам не толькі дэмакратычным, але і талерантным! Да ўсіх, слабейшых ад сябе, адносяцца яны нават з агрэсіяй.

У гэтым пераканаўся не адзін я, жывучы у крэсавым Беластоку. Начытаўшыся варожых беларусам выказванняў у тутэйшых публікатарах, асабліва ў „Кур'еры Падляшскім", газетцы бульварнай, таму і адэкватнай грамадскім настроям.

„Gazeta Współczesna" як бы пераняла тыя „кур'ерскія" горапалемікі на беларускія тэмы. Праўда, робіць яна гэта акуратней, не так па-прасцяцку. У нумары ад дванаццатага кастрычніка змясціла падборку з чатырох тэкстаў, дзелячы па палове сімпатыю і антыпатыю да беларусаў. Такая матэматычная справядлівасць мае свой сэнс, тым болей, што пляўкі на нас пакінуў рэдактар напаследак, на першым месцы ставячы аўтараў разважлівых ды глыбей думаючых. Напрыклад, Станіслаў Сьверад, як адзін з неблагіх польскіх правінцыяльных публіцыстаў, заяўляе ў сваіх высновах, што беластоцкім беларусам патрэба, аднак, **аўтаномія.** Паляк не быў бы палякам, калі б не зрабіў папрок у наш адрас, чаму польская меншасць у Беларускай Рэспубліцы не атрымала належных ёй правоў. Дакладна так мусім мы разумець сьверадавы намёкі. Спадару Станіславе, мы ж грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі, а не БССР! Не можам несці палітычнай і маральнай адказнасці за палітыку Мінска з Масквою датычна беларускіх палякаў. Маем правы на дамаганні адно таго, што павінна гарантаваць нам **наша дзяржава,** у якой жывем і на якую плацім падаткі. На мінскай вуліцы мы чужынцы з замежнымі пашпартамі, турысты ўсяго...

„Тыгоднік Салідарнасць" ад 22 верасня не пашкадаваў месца Марку Зюлкоўскаму на Zadry

**(Працяг на стар. 7)**



## ЯН МАКСІМЮК
# МЁРТВЫ СЕЗОН

— 5 —

Мінская архітэктура. Хтосьці ў Мінску мне казаў, што сталіца Беларусі архітэктурна належыць да самых сучасных гарадоў у Савецкім Саюзе. Гэта — як рэпліку на маю заўвагу, што ў Мінску няма сапраўды мадэрных будынкаў, якія з выгляду адзначаліся б лёгкасцю канструкцыі і функцыянальнасцю. Наконт функцыянальнасці іх я і цяпер не ўпэўнены, што да выгляду, дык наогул засталося ў мяне самае цяжкое ўражанне. Цэнтральная артэрыя Мінска — Ленінскі праспект — забудаваная абапал агромністымі будынінамі, прыгнятаючымі душу масамі бетону, таўшчэзнымі калонамі, імпазантнымі портыкамі, параднымі пад'ездамі. Можа, справа тут у прапорцыі. Што ні сказаць, па Ленінскім праспекце не пашпацыруеш сабе, каб нацешыць зрок і акрыяць душою. Астаецца ўражанне няўтульнасці, адчужанасці ад пейзажу. І перакананне, што чалавек — гэта крупінка пылу пад нагамі гісторыі.

„Немагчымасць жыць у такіх пейзажах!, — напісала ў адным са сваіх вершаў Надзея Артымовіч. Гэтая фраза, як нейкі неадчэпны музычны матыў, таўклася мне ў галаве падчас маіх блуканняў па мінскіх вуліцах. Аднак жа людзі жывуць. Ігар Бабкоў падсмейваўся над маёй „эстэтычнай разгвэдзанасцю" ў адносінах да мінскай архітэктуры, прапануючы мне болей аб'ектывізаваны погляд на справу. Архітэктурны стыль, які наглядаеш, гэта „сталінскі эмпір", тлумачыў ён мне. Ці не адчуваеш, што такое вызначэнне надае гэтым будоўлям новую якасць і ставіць іх у іншым святле?

Ігар закончыў філасофскае аддзяленне БДУ. Не выбраў сабе акадэмічнай кар'еры, працуе начным вартаўніком. Што ён там вартуе, я толкам не ўразумеў. Аднак я адчуў, што яго ная праца — гэта не прыхамаць філосафа, якому напляваць на рэчаіснасць, як славутаму Дыягену з Сінопа бадай. „Ночнае бдение" для Ігара — гэта пункт апоры, самы надзейны ў ягоным светаўспрыманні. Захаваць сваю асобу, сваё ўласнае „я", разабрацца ў тым, што такое беларускасць, што значыць быць беларусам тут і цяпер — гэта і гэтаму падобнае мы не раз „разміналі" ў сваіх гутарках, швэндаючыся ад кнігарні да кнігарні. Ігар — заядлы кнігалюб, яго ведаюць амаль у кожнай букіністычнай краме. Быў час, калі можна было натрапіць на абсалютна неверагодныя беларускія выданні, апавядаў мне ён. Цяпер ужо не тое. Людзі сталі цікавіцца беларускай кніжкай.

Ігар якраз мне сказаў пра мітынг у мікрараёне Паўднёвы Захад. Мітынг ладзіўся Радай БНФ Маскоўскага раёна. У горадзе ніякіх аб'яў пра мітынг я не бачыў. Ігар растлумачыў мне, як туды даехаць. Я зразумеў, што мне трэба будзе зысці з аўтобуса на вуліцы Известь (вуліцы Вапна). Што за назву прыдумалі. У аўтобусе я выклікаў усеагульны рогат, пытаючыся пра тую вапну. Так бы і не дабраўся туды, калі б на адным з прыстанкаў не мільганула мне постаць Ігара. І толькі там я канчаткова высветліў, што мелася на ўвазе вуліца газеты „Известия", ні больш, ні менш. Мала таго, побач яе была і вуліца газеты „Правда". Ох, людзечкі! „Не нервуйся! — гэта адзін з запаветаў, які Ігар узяў на ўзбраенне свае асобы, стварыўшы сабе свой прыватны дэкалог. Гэтым запаветам ён паспрабаваў узброіць і мяне.

Мітынг адбываўся на невялікай пляцовачцы, уціснутай у далінку між шматпавярховымі бетоннымі блокамі. Народу набіралася шмат, тысяч чатырыпяць. Было моцнае падраздзяленне міліцыі, у файных, акуратных формах. Асабліва імпанавалі мне міліцэйскія шапкі, імпазантнай велічыні. Камандаваў імі палкоўнік Срыбный (каб толькі не наблытаць з прозвішчам!), афіцэр добра вядомы ўсім нефармальным рухам, і, як мне казалі, дужа паважаны.

З боку Народнага фронту выступалі сябры Сойма Кастусь Лапко і Мікола Купава. Прадстаўлялі мэты БНФ, гаварылі пра З'езд БНФ у Вільні. У асноўным жа, пытанні членам БНФ і свабодны мікрафон. Што такое БНФ — палітычная партыя, апазіцыя? Што зрабіў БНФ дзеля паляпшэння долі народу? Што з нацыянальнымі меншасцямі на Беларусі, ці не праглыне іх беларускі нацыяналізм?! Людзі рэагуюць жыва на выступленні, воклічамі, гулам неадабрэння, зрэдчасу свістам. Але ўражанне ў мяне такое, што большасць з прысутных ставіцца да мітынгу прыблізна так, як я: у ролі вонкавых наглядальнікаў. Пабачым, чыё возьме: ці Фронт, ці „афіцыёз". Атмасферу канфрантацыі нагнятаюць сродкі масавай інфармацыі. Народ не супраць Народна-

## МІКОЛА ІВАНОЎ
# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

**(Працяг са стар. 5)**

польская сацыялістычная дзяржава, а не бяссільная БССР.

Сведчаннем рэзкага падзення курсу „беларускіх акцый" у Маскве з'яўляўся таксама факт недапушчэння дэлегацыі Беларускай ССР на мірныя перагаворы ў Рызе. Рыжскі мірны дагавор быў падпісаны, як вядома, дэлегацыямі Польшчы, РСФСР і Украіны. Прапагандысцкая заява ўрада БССР аб тым, што яго інтарэсы ў Рызе ён даручыў прадстаўляць дэлегацыі РСФСР, нікога не мог надмануць. Гэты факт як найбольш выразна адлюстроўваў фікцыйнасць беларускай незалежнасці і суверэннасці ў савецкіх умовах. Тут нават прыдаліся б і больш моцныя словы. Ды і якімі ж словамі можна ахарактарызаваць дзеянні ўрада, які даручае свайму суседу падпісаць ад свайго імя дэкларацыю, што пазбаўляе беларускі народ больш паловы яго этнаграфічнай тэрыторыі?

Пытанне ўключэння Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны ў склад РСФСР да сённяшняга дня амаль зусім не высветлена. Не закранаецца яно нават у такіх фундаментальных працах, як акадэмічная пяцітомная „Гісторыя БССР" і 12-томная „Беларуская савецкая энцыклапедыя". Прычына? У гэты перыяд кіраўніцтва РКП(б) яўна здрадзіла нацыянальным інтарэсам беларускага народа, яно намагалася прынесці беларусаў у ахвяру справе сусветнай рэвалюцыі, „святой" справе для кожнага тагачаснага сапраўднага камуніста.

Нягледзячы на спробу затаіць праўду, справа пазбаўлення беларускага народа яго ўсходніх этнаграфічных тэрыторый, як высвятляецца, мае сваю даволі складаную і супярэчлівую гісторыю. Вядома, што ў 1919 годзе паміж савецкім і польскім урадамі вяліся перагаворы на невялічкай палескай станцыі Мікашэвічы. Прадстаўлялі інтарэсы сваіх урадаў савецкая і польская місіі Чырвонага Крыжа. Савецкая дэлегацыя ад імя свайго ўрада прапанавала польскаму боку падпісанне мірнага пагаднення і правядзенне граніцы паміж імі на ўсход ад Мінска па рацэ Бярэзіне. Згодна з гэтымі прапановамі ўся Міншчына павінна была апынуцца ў складзе польскай дзяржавы. Вельмі знамянальнае ў гэтым тое, што прапанаваная граніца амаль дакладна супадала з межамі 1921 г. адноўленай пазней БССР. Ці не азначае гэта „супадзенне", што кіраўніцтва РКП(б) у цяжкіх абставінах грамадзянскай вайны вырашыла адмовіцца ад далейшай падтрымкі беларусаў і перадаць пераважную большасць беларускіх зямель Польшчы! Віцебшчына, Гомельшчына і Магілёўшчына ў адпаведнасці з гэтым планам павінны былі ўвайсці ў склад РСФСР у якасці карэнных рускіх тэрыторый. Беларускае пытанне, такім чынам, павінна было быць вырашана раз і назаўсёды. Планы гэтыя, аднак, не ажыццявіліся. На дзіва, адмовілі палякі, якія яшчэ былі пад уплывам федэралісцкіх ідэй Ю. Пілсудскага і намагаліся аднавіць межы 1772 г., іншымі словамі, уключыць у склад Польшчы ўсю Беларусь.

Амаль год (ад лета 1919 да лета 1920 г.) Мінск і ўся Мінш-

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

га фронту, але пакуль, што, яшчэ поўнасцю і не за. Народ прыглядаецца, прыслухоўваецца.

У натоўпе пачынаецца турзаніна. Гэта міліцыянеры спрабуюць выкручваць рукі і выцягваць тых, што прадаюць „Навіны" БНФ. Людзі рэагуюць абурэннем. Вэрхал аціхае, мітынг працягваецца, „Навіны" распаўсюджваюцца далей. Мітынг праходзіць не без камічных акцэнтаў. Нейкі дзядзька, адрэкамендаваўшы сябе прадстаўніком яўрэйскай нацыянальнасці, пачынае ўпікаць сябраў Сойма ў няведанні беларускай мовы. Спасылаецца на слоўнік, які тут жа выцягвае з-за пазухі. Пабачыўшы аб'ём таго слоўніка, Мікола Купава хутка рэплікуе, што ён замалы, і няма ў ім усіх слоў беларускай мовы. Зноў жа іншы, назваўшы нейкую страшэнную амерыканскую ракету, якую нібыта не выкрываюць савецкія радары, пытае, што БНФ думае рабіць у гэтай справе.

На мітынгу быў зачытаны праект стварэння Рабочага саюза Беларусі (дакладней кажучы, зварот ініцыятыўнай групы па стварэнні такога Саюза). Прысутныя выслухалі гэты зварот з выключнай увагай і адабрылі гучнымі воплескамі.

Канца мітынгу я не дачакаўся. А шкада, бо пад канец выступаў сакратар гаркама партыі Краўчанка. Яго выступленне, як мне потым казалі, было процівагай выступленняў БНФ-аўцаў. Паразумення няма. Тут мы, а тут вы.

*(Працяг будзе.)*



# „ГРОДНЕНСКОЙ ПРАВДЕ" — 50

Гродзеншчына і Беласточчына супрацоўнічаюць між сабою ўжо звыш трыццаці гадоў. Столькі ж сама сябруюць рэдакцыі беластоцкіх газет з „Гродзенскай праўдай". А сяброўства гэта даволі плённае і не абмяжоўваецца толькі галантнымі візітамі. Журналісты з Гродна прыязджаюць у беластоцкія рэдакцыі на стажыроўку, а беластоцкія — стажыруюцца ў Гродне. Рэдакцыі абменьваюцца матэрыяламі. Таксама на старонках „Нівы" можна сустрэць артыкулы гродзенскіх журналістаў, а „Гродзенская праўда" неаднойчы пісала аб беларусах на Беласточчыне і друкавала творы „белавежцаў".

Зараз „Гродзенскай праўдзе" споўнілася пяцьдзесят гадоў. Гісторыя яе ўзнікнення звязана з Беластокам, дзе ў кастрычніку 1939 г. стаў выходзіць „Освобождённый Белосток", які і лічаць пачаткам газеты і з якога пачалася яе нумарацыя. Потым была „Вольная праца", у перыяд гітлераўскай акупацыі — „Белостокская правда", якая пасля вызвалення прыняла сённяшні назоў — „Гродненская правда".

На юбілейныя святкаванні з Беластока былі запрошаны галоўныя рэдактары „Газеты Вспулчэснай", „Кур'ера Падляшскага" і „Нівы". У суботу 14 кастрычніка ў малой зале Гродзенскага драмтэатра сабраліся супрацоўнікі і ветэраны „Гродзенскай праўды", яе самыя верныя чытачы, прадстаўнікі абласных і гарадскіх улад. Без лішняй пампезнасці прайшла афіцыйная частка ўрачыстасці. Былі кароткія і сардэчныя прамовы-віншаванні, часта і на беларускай мове. Многія супрацоўнікі рэдакцыі атрымалі ўзнагароды ад абласных і грамадскіх устаноў і арганізацый. Апрача сардэчных пажаданняў і ўспамінаў журналістаў-ветэранаў многа гаварылася пра ролю газеты ў працэсе перабудовы, пра яе будучае. Газета зараз выходзіць на рускай мове, але ад нядаўна на яе старонках сталі паяўляцца артыкулы і на беларускай. Плануецца выдаваць беларуска- і польскамоўныя варыянты газеты або асобныя выданні.



**Віншаванні ад беластоцкіх рэдакцый перадае галоўны рэдактар „Газеты Вспулчэснай" Анатоль Вакулюк (стаіць). Побач сядзіць Веслаў Кабылінскі — галоўны рэдактар „Кур'ера Падляшскага".**

Юбілейнае спатканне закончылася канцэртам вядомага і ў нас на Беласточчыне беларускага ансамбля „Музыкі".

Рэдакцыйнаму калектыву „Гродзенскай праўды" яшчэ раз перадаем шчырыя віншаванні і найлепшыя пажаданні плёну на журналісцкай ніве.

**В. Луба**

Фота А. Перахода

(Працяг са стар. 6)

# БЕЛАРУСКАЯ ПАРТЫЯ АБО „САЛІДАРНАСЦЬ"

białoruskie w Polsce. Загаловак крыху недарэчны, бо Зюлкоўскі канцэнтруецца на высвятленні эпізодных акалічнасцяў, у якіх адбываўся ўдзел беларускіх кандыдатаў у выбарах у Сойм ды Сенат Польшчы. Наогул добрасумленна патрактаваў ён сваё журналісцкае заданне. Тое, што фармуляваў, будзе мець далейшае значэнне. Аб'ектыўна сцвердзіў, што салідарніцкі бок у Беластоцкім Краі намерана не прыкмячае існавання тут беларускай нацыянальнай меншасці, ігнаруе яе. Так было, так ёсць, і так — пэўна — яшчэ застанецца. Дапоўню Зюлкоўскага наступнай устаноўкаю: тутэйшыя палякі не могуць, проста псіхалагічна, прызнаць беларускасці значнай часткі Беласточчыны, бо лічаць крыўднаю для іх лінію Керзана, а Беларусь у іхнай свядомасці пачынаецца недзе за Стоўбцамі. Вось і ўся тайніца польска-беларускай сцяны ў нас, узаемнай глухаты.

Усенькія гэтыя праблемы складваліся б куды прасцей і з меншымі нацыяналістычнымі забабонамі, калі б пасляваенная ўлада ўчыніла тое, што абяцала: самы высокі ў свеце дабрабыт, вялікі з вялікіх дэмакратызм, волю вольным і г.д. Закончыла тэрорам і ўпадкам.

Зусім свежы часопіс „Tygodnik Rolników Solidarność", ужо ў сваім шостым ад пачатку нумары змясціў доўгі ліст Białoruska ścieżka do „Solidarności". Гэта пра адзіны ў беларускім асяроддзі гурток „Салідарнасці", які існуе ў Дубічах-Царкоўных. Заснаваны восем гадоў назад, а нядаўна адноўлены, ставіць сваёй мэтай цяпер значна шырэйшыя задачы. Акрамя справаў тыпова ўласных, намагаецца дабіцца якраз **аўтаномнасці для ўсіх гурткоў „Салідарнасці", якія будуць арганізаваць беларусы.** Як гэта трэба разумець? У выпадку ўзнікнення цэлага архіпелагу такіх самастойных гурткоў, калі дубіцкая тая „сцежка" пашырэе ў дарогу або і ў гасцінец, — дойдзе да ўтварэння асобнай беларускай „Салідарнасці"? Так здагадваюся, і думаю, што не памыляюся. У палітычны хаос і распад традыцыйных партый — ідэйную пустэчу ў нашай павятовай правінцыі пачне запаўняць беларуская н а ц ы я н а л ь н а я актыўнасць як найбольш набліжаная да карэнных інтарэсаў насельніцтва. А там, дзе яе забракне або праявіць сябе на слабым узроўні, ролю абаронцы народнай справы прыме спомненая „Салідарнасць", ці нейкая ўсяпольская сялянская партыя. Цяжка прарочыць, наколькі дакладна так адбудзецца, але напэўна ўжо не вернуцца мінулыя часы з іх грамадска-палітычным укладам. Як не вяртаецца раз пражытае жыццё.

**С. Яновіч**

чына знаходзіліся ў польскіх руках, і ўся савецкая палітыка па беларускаму пытанню характарызавалася ўсведамленнем страты назаўсёды тэрыторый на захад ад Бярэзіны і ўключэння рэшты тэрыторый нядаўняй БССР у склад Расійскай Федэрацыі. Аднак, карысны для Чырвонай Арміі ход барацьбы на заходнім фронце і аднаўленне савецкай улады на Міншчыне з'явіліся для савецкага кіраўніцтва ў значнай ступені нечаканымі. Тым больш, што 7 кастрычніка 1920 г. польскія войскі зноў занялі Мінск, і толькі папярэднія рыжскія дамоўленасці ды памяць аб нядаўнім штурме савецкімі войскамі Варшавы, змусілі палякаў праз некалькі дзён яго пакінуць. У выніку нечаканага авалодання Мінскам намеціўся канфлікт паміж двума этапамі савецкай нацыянальнай палітыкі па беларускаму пытанню: першым, калі партыя падтрымлівала ідэю стварэння вялікай і моцнай сацыялістычнай Беларусі, і другім, калі партыя прымірылася з уступкай большасці беларускіх зямель Польшчы, а тыя, што засталіся, далучыла да РСФСР. Своеасаблівым кампрамісам паміж гэтымі двума этапамі савецкай нацыянальнай палітыкі ў адносінах да беларускага народа стала паўторнае абвяшчэнне маленькай мініяцюрнай Савецкай Беларусі 31 ліпеня 1920 г.

Быў яшчэ адзін вельмі важны аспект фарміравання савецкай нацыянальнай палітыкі ў адносінах да беларусаў у гэтыя гады. У Версалі (Францыя) у гэты час адбывалася мірная канферэнцыя, на якой абмяркоўвалася і пытанне дзяржаўнай прыналежнасці заходніх тэрыторый былой Расійскай імперыі. Польскія нацыянальныя інтарэсы на гэтай канферэнцыі бараніла дэлегацыя адроджанай Рэчы Паспалітай, а расійскія нацыянальныя інтарэсы — аб'яднаная дэлегацыя белых рухаў, якія вялі барацьбу супроць савецкай улады. І хаця савецкі бок не прымаў удзел у гэтай канферэнцыі, у Маскве пільна сачылі за яе ходам і пасрэдна рэагавалі на яе вынікі. У прыватнасці, канферэнцыя прыняла рашэнне аб правядзенні ўсеагульных рэферэндумаў на ўсіх спрэчных еўрапейскіх тэрыторыях, каб вырашыць пытанне іх дзяржаўнай прыналежнасці ў найбольш дэмакратычным духу. Месцам правядзення магчымага рэферэндума была абвешчана і Беларусь. Каб не дапусціць да гэтага, савецкія ўлады ўключылі Гомельшчыну, Магілёўшчыну і Віцебшчыну ў склад РСФСР. Гэта, на іх думку, ратавала іх ад пагрозы правядзення рэферэндума. Яшчэ адной гарантыяй супроць правядзення якіх-небудзь рэферэндумаў павінны былі стаць фальсіфікаваныя вынікі ўсеагульнага перапісу 1920 г. Паводле вынікаў гэтага спісу на Гомельшчыне, напрыклад (дзе перапіс 1926 г. выявіў больш за 70% беларусаў) беларусы ў 1920 г. складалі нібыта менш за 10% агульнай колькасці насельніцтва. Гэтыя мерапрыемствы, на думку партыйнага кіраўніцтва, павінны былі стаць найлепшай гарантыяй ад умяшання „імперыялістаў" ва ўнутраныя справы савецкай дзяржавы. Інтарэсы беларускага народа пры гэтым выразна адыходзілі на другі план.

У першы паслярэвалюцыйны перыяд у нацыянальнай палітыцы савецкай улады выразна выяўляецца тэндэнцыя бяздушнага інструментальнага выкарыстання беларускага пытання для дасягнення сваіх палітычных мэт. Падобная тэндэнцыя прывяла ўрэшце да ганебнага падзелу Беларусі ў 1920—1921 г.г. і да паўстання міні Беларускай Савецкай Рэспублікі ў межах 1920—1924 г.г.

*(Працяг будзе)*

# Зорка

## Старонка для дзяцей



У школе ў Тыневічах Вялікіх. На лавачцы: Міраслаў Ваўранюк, Янка Белавежац, Яўген Данілюк і Івонка Іванюк. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Залатая ракавінка

КІТАЙСКАЯ КАЗКА

Даўным-даўно на беразе цудоўнага Паўднёвага мора жыў юнак па імені А Сінь. Жыў ён адзін-адзінюткі. І ў зімовую сцюжу, і ў летнюю спёку, кожны дзень, як толькі пачынала світаць, выходзіў ён у мора лавіць рыбу. І кожны дзень спяваў А Сінь свае дзівосныя песні. Ды так прыгожа, што зачароўваў усіх, хто чуў яго спеў.

Аднойчы закідваў сетку ён мноства разоў, але толькі апоўдні напоўніў свой кошык рыбай. Сабраў ён сетку і пад пякучымі сонечнымі промнямі пайшоў дадому. І раптам бачыць: на гарачым прыбярэжным пяску ляжыць маленькая залатая рыбка. А над ёю, распасцёршы крылы, лётае прагная варона, каб праз момант кінуцца ўніз.

Рыбка задыхалася. Яна бяссільна то раскрывала, то закрывала рот. Кінуўся А Сінь да залатой рыбкі і падняў яе.

Хутка пабег юнак да мора, асцярожна апусціў рыбку ў ваду. Прайшло нямала часу, пакуль рыбка слаба варухнула хвастом і пачала дыхаць. Потым яна крыху падняла галаву, сумна паглядзела на А Сіня, які схіліўся над самай вадою, і паплыла ў марскую глыбіню.

Вярнуўся А Сінь дадому, паставіў разаграваццa абед, а сам пачаў папраўляць старую сетку. Але ўвесь час ён успамінаў выратаваную ім залатую рыбку, уяўляў сабе, як яна паволі плыве ў мора, і на твары А Сіня з'яўлялася шчаслівая ўсмешка.

На другі дзень А Сінь, як заўсёды, напяваючы песню, пайшоў лавіць рыбу. Закінуў ён сетку ў мора, а калі выцягнуў яе, то ўбачыў, што не злавіў ніводнай рыбкі. У сетцы была толькі адна залатая марская ракавінка. Дастаў юнак ракавінку і кінуў яе назад у мора. І колькі ні закідваў ён сетку ў той дзень, кожны раз выцягваў усяго толькі гэтую марскую ракавінку.

Страціў юнак надзею на ўдачу, прысеў стомлены на беразе мора. А ракавінка тая ціхенька падпаўзла да яго. Задумаўся А Сінь і сам не заўважыў, як узяў у рукі ракавінку. А калі ўзяў, то са здзіўленнем убачыў, якая незвычайна прыгожая была гэтая марская ракавінка!

Прынёс А Сінь ракавінку дадому, апусціў яе ў міску з вадою, а сам выйшаў на двор і сеў папраўляць сваю старую сетку. Надышоў вечар. На дварэ сцямнела. Ведаючы, што на вячэру ў яго і рысінкі няма, ён вырашыў крыху раней легчы спаць, каб забыцца пра голад.



Пайшоў А Сінь у хату і толькі адчыніў дзверы, як адтуль запахла нечым вельмі смачным. Глядзіць ён і бачыць: стол засланы, а на ім багатая вячэра! У першае імгненне вырашыў, што гэта яму сніцца, затым падумаў: можа, нехта заказаў пачастунак для гасцей, а яго не туды прынеслі. Стаў чакаць гаспадара пачастунку.

А Сінь прасядзеў на парозе хаты да глыбокай ночы. Ды, відаць, ніхто не збіраўся прыходзіць па пачастунак, і галодны А Сінь павячэраў на славу.

Назаўтра А Сінь, як звычайна, пайшоў да мора лавіць рыбу. А вечарам, вярнуўшыся дадому, ён зноў убачыў багатую вячэру на сваім стале. На трэці дзень усё паўтарылася зноў.

У гэтую ноч А Сінь не заснуў, усё думаў, як даведацца, адкуль з'яўляецца вячэра. І нарэшце прыдумаў. Завідна ён пайшоў у мора і намнога раней звычайнага вярнуўся дадому. Употай улез на дрэва, што расло каля самага акна хаты. Адтуль ён мог бачыць усё, што рабілася ў хаце. І ўбачыў А Сінь вельмі прыгожую маладую дзяўчыну, якая прыбірала ў яго хаце.

Калі загарэлася вячэрняя зорка, дзяўчына прыгатавала вячэру, паставіла на стол, а сама пачала латаць старое адзенне А Сіня.

А Сінь ціхенька злез з дрэва і хутка зайшоў у хату. Дзяўчына хацела схавацца, але юнак перагарадзіў ёй дарогу. Падзякаваў за клопаты і дапамогу і вельмі ветліва пачаў распытваць у яе: як завуць і адкуль яна.

Глянула дзяўчына сваімі яснымі вачыма на А Сіня і, сарамеючыся, сказала:

— Завуць мяне Залатая ракавінка, а дом мой у глыбіні марской. Але я хачу жыць тут, сябраваць з табой, навучыцца спяваць твае песні. Дазволь, калі ласка, мне застацца ў цябе!

Як узрадаваўся А Сінь: у яго будзе сябар!

Выбег юнак з хаты, нарваў палявых кветак, накасіў духмяных траў. Кветкамі заслаў пасцель, а з пахучых траў сплёў полаг. І калі месяц, глянуўшы праз акно, асвяціў пакой, дзяўчына ўжо соладка спала на гэтай пасцелі з кветак. З той пары маленькі пакой заўсёды быў напоўнены водарам свежых палявых кветак.

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

Станіслаў Шушкевіч

### СТРАКАЗА І МУХА

Просіць муха стракаазу:
— Светлакрылая, разуй,
Каля лужыны хадзіла,
Чаравічкі замачыла.
Не магу спягнуць іх з ножак.
Хто мне беднай дапаможа?

— Не прасі, не галасі!
Бруднай ножкай не трасі!
Ты капалася ў памыях,
У цябе і твар, і шыя
Ажно ломяцца ад бруду.
Размаўляць з табой не буду!
Бачыш, вунь бліШчыць вадзіца,
Там празрыстая крыніца.
Ты хутчэй ляці памыйца!

### МУХІ НА АРЭЛЯХ

Мухі селі на арэлі,
Гайдаліся, аж спацелі,
А злоснаму павуку
Захацелася гукнуць
І пастрашыць весялух,
На арэлях спрытных мух.
Ён узяў пілу пад паху
І палез крадком па даху,
Там пад застрашкам віселі
На сухім суку арэлі.
Сук пілуе спрытна, спешна,
Аж самому стала смешна,
Надламаўся, трэснуў сук
І зваліўся ўніз павук.
Мухі ўсе павесялелі
І на поле паляцелі,
І цяпер павук на полі
Не дагоніць іх ніколі.

Ніна Маеўская




(З кнігі „Ляці, верабейка“)

### ПЕРШАЯ ЛІТАРА

... мы ўжо вучымся. Андрэйка і я вучымся ў школе чытаць і пісаць. І настаўніца ў нас ёсць. Сказала яна нам пісаць дома першую літару „а“. Селі мы з Андрэйкам, прыгатавалі сшыткі і ручкі, а як пісаць — не ведаем.

Андрэйка кажа:

— Спачатку кручок, а потым кружок.

А я кажу:

— Спачатку кружок, а потым кручок.

— Не, я буду пісаць спачатку кручок, а потым кружок, — вырашыў Андрэйка.

Ён памалу вывеў палачку і спыніўся. Сядзеў, сядзеў, і слёзы пацяклі ў яго з вачэй. Тут у пакой, дзе мы пісалі, зайшла Андрэйкава мама:

— Чаго ты, сынок? — спытала яна.

— Не ведаю, куды кручок завярнуць, — усхліпнуў Андрэйка, — у той бок ці іншы.

— Ох, вучні вы мае, вучні! — сказала Андрэйкава мама. — А куды ж вы на ўроку глядзелі?

— У акно, — адказала я, — там вераб'і лёталі.

### „ПРАЦАЎНІЦА“

Галінка не магла рашыць задачу.

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)

# Пра Галінку

— Пасядзі і падумай, — сказала мама.

Галінка сядзела над раскрытым задачнікам. А на акне побач з яе сталом стаялі дубчыкі вярбы і парэчак у слоіку з вадой. Галінка даўно паставіла іх у ваду. На вярбе з'явіліся пушыстыя коцікі, а на парэчках зверху — пахучыя лісточкі і ўнізе — белыя карэньчыкі. Мама даўно казала, каб пасадзіла парэчкі ў гародчыку.

„Усё роўна задачка не рашаецца, — сказала сама сабе Галінка, — пайду пасаджу парэчкі."

Яна ўзяла слоік і пайшла. Але ў гародчыку не відаць было лапаткі, і Галінка паставіла слоік на ганак. „Чым лапатку шукаць, лепш я двор падмяту, — падумала яна, — вось і венік стаіць".

Дзяўчынка зайшла ў канец двара, пачала месці. Па двары хадзілі куры. Яны моцна кудахталі.

„Напэўна, галодныя, — падумала Галінка, — трэба пакарміць". Яна кінула венік пасярод двара і пабегла ўзяць курам зерня.

Але тут яе паклікала мама:

— Галінка, ідзі абедай ды ў школу збірайся.

— Мамачка, дык я ж нічога не зрабіла: задачку не рашыла, парэчкі не пасадзіла, двор не падмяла, курэй не накарміла...

## ЯК МЫ ПРАВОДЗІЛІСЯ

З Галінкаю мы сябруем. І — ні на крок адна ад аднае. Прыходзім са школы — пачынаем рабіць урокі. Калі ў мяне нешта не атрымліваецца, я бягу да Галінкі, калі Галінка чаго не разумее, — яна да мяне.

Сёння Галінка прыйшла, бо ў яе задачка не атрымлівалася. Мы хутка яе рашылі разам, і Галінка сабралася ісці дамоў.

— Я цябе правяду, — сказала я.

Мы пайшлі. Дарогай гаварылі пра граматыку. Галінка ўжо вывучыла правілы, а я — не.

— Вывучу, — прамовіла я, — сёння ж адно правіла.

Але Галінка сказала, што два, у яе сшытку нават адзначана, што вучыць трэба два правілы.

— Вось пойдзем пакажу, — прапанавала яна.

І мы пайшлі да Галінкі. Назад дамоў мяне яна праводзіла. Ішлі мы, а нам насустрач — кот.

— Глядзі, які смешны кот, — сказала Галінка. І тут я ўспомніла, што ў нас з'явіліся кацяняты.

— Хочаш паглядзець? — спытала я ў Галінкі.

І мы зноў пайшлі да нас. Пагулялі з кацянятамі, потым я Галінку стала праводзіць.

На вуліцы пачало змяркацца.

— Ты мяне хоць да вугла правядзь, — сказала Галінка, — адтуль нам аднолькава дадому.

Але калі мы прайшлі паўдарогі, Галінка ўспомніла, што не аддала мне чырвоны аловак.

І мы пайшлі да Галінкі за алоўкам.

Галінка не стала мяне праводзіць. Яна паглядзела ў акно і сказала:

— Ужо цёмна, я баюся.

На вуліцы сапраўды было цёмна. Добра, што Галінчына бабуля мяне выручыла, завяла дадому.

# Вершы Віктара Шведа

## АНЕКДОТ ПРА ЖЫВОТ

— Пане доктар, даражэнькі,
Жыць не можна без турбот.
Ад лякарства ў майго Жэнькі
Разбалеўся ўжо жывот.

— Не нервуйце чалавека,
Пройдзе сыну дурната.
Многа дасканалых лекаў
Маем і ад жывата.

## НІЗКА ЛЁТАЙ САМАЛЁТАМ

— Якая ж у цябе работа
У гэтым горадзе, Валодзя?
— Я з рэактыўным самалётам,
Бабуля, лётаю там штодзень.

— Цябе, унучак, ад калыскі
Я няньчыла і гадавала.
Лётай заўсёды вельмі нізка,
І асцярожна, і памалу.

## У НЯДЗЕЛЮ НА КАЧЭЛЯХ

Напоўнена хата
Жыццём у нядзелю.
Купіў хлопцу тата
Каня на качэлях.

Імчыць віхрам Віця,
У добрай ён форме,
Крычыць: — Падкажыце,
Дзе газ і дзе тормаз?

## У ЦЫРУЛЬНІКА

— Я не прыйду, — азваўся
Колька, —
Да вас больш падстрыгацца:
Кашмараў высказалі столькі
Мне сёння падчас працы!

— Я выявіць тут мушу хіба
Сэнс дзеяння такога:
Як валасы ўсе стануць дыбам —
Стрыгчы лягчэй намнога.

## НА ВУЛІЦЫ МАНЮШКІ

— Вось вуліца Манюшкі, —
Сказаў экскурсавод. —
Ці ведаеш, дачушка,
Чым славіў ён народ?

— І нам жа невядома, —
Сказалі хлапчукі. —
Не знаем нат таго мы,
Што тут жыве такі.

## ГУЛЬНЯ Ў ІНДЗЕЙЦАЎ

Малому толькі гулі-гулі,
Адзін ён у сямейцы.
Просіць: — Ты пагуляй, бабуля,
З унукам у індзейцаў.

— Дык дзедку пад рукою маеш,
Мо ён падрыхтаваны.
— З дзедкам, на жаль, не
пагуляю, —
Ужо аскальпаваны.

# Вучнёўская творчасць

## РАБІНА

Стройная рабіна
Пад акном расла,
Заглядала ў класы
Ды падказвала.
Нам чытала вершы,
Песенькі спявала,
Стройная рабіна
Нат' дэкламавала.
Надышла зіміца
З ветрам і марозам
І наша ўжо рабіна
Падказваць не можа.
Мы засумавалі
Без нашай рабіны,
Нават былі двойкі
З рабіны прычыны.

Ася Астапчук, 7 кл.,
Ласінка

## ВОСЕНЬ

Надышла ўжо восень —
Цудная пара.
Каляровыя лісточкі
З ветрам панясла.
Пачырванела рабіна,
Каштаны даспелі.
Гэта ўсё восень зрабіла,
А птушкі даўно адляцелі.

Ася Філіповіч, 7 кл.,
Ласінка

(Працяг са стар. 9)

## ЗАЛАТАЯ РАКАВІНКА

Шчаслівы час заўсёды бяжыць хутка. Прайшло некалькі год. А Сінь узмужнеў і стаў статным прыгожым юнаком. А Залатая ракавінка яшчэ больш папрыгажэла. Але вось аднаго разу ўночы прачнулася А Сінь і бачыць: сядзіць дзяўчына, слязамі горкімі заліваецца!

Працяг у наступным нумары

# Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 17, кв. 47. Дзіляра Мяметава (5 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 13, кв. 40. Каця Марозава (3 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Волаха, 8, кв. 68. Таня Габрусёва (6 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Волаха, 8, кв. 71. Наташа Санько (4 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, 2 пер. Р. Люксембург, 4, к. 2, кв. 2. Света Чапкоўская (8 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Хмялеўскага, 38, кв. 31. Оля Міхневіч (6 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Хмялеўскага, 38, кв. 31. Каця Міхневіч (2 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 26. Вольга Сафроненка (6 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Волаха, 7 к. 1, кв. 26. Іра Сафроненка (6 клас).

— ✵ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 92, кв. 73. Аксана Рудзікава (6 клас).

— ✵ —

БССР, 220007, г. Мінск — 7, вул. Ляўкова, 10, кв. 39. Ілона Майсеенка (8 клас).

— ✵ —

БССР, 220064, г. Мінск-64, вул. Ландэра, 62, к. 2, кв. 55. Таня Расціпэўская, 7 клас.

— ✵ —

Марэк Вішанка, 5 клас, вёска Мікулічы 28, пошта 17-340 Рагачы, Беластоцкае ваяводства. Польшча.

# Пішуць школьнікі

## ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Хуценька праляцелі нашыя летнія канікулы. Мы зноў ужо селі за парты. Але ў школе мы не толькі вучымся, але і гуляем.*

*20 верасня наш клас пасля ўрокаў арганізаваў вогнішча. Мы падрыхтавалі патрэбныя прадукты і розныя рэчы для гульняў. Вогнішча распаліў наш настаўнік Яўген Абрамюк, а бульбу прынеслі А. Селеванюк і Я. Філіповіч. Над агнём мы пяклі каўбаскі і саланіну. Гэтая ежа атрымалася вельмі смачнай. З ахвотай паабедаўшы, мы пачалі гуляць у розныя гульні. Арганізатарам і вядучым гульняў была наша настаўніца. Найбольш нам спадабалася перацягванне вяроўкі, піццё кампоту на час, з'яданне яблыка, завешанага на нітачцы, бег на кароткія дыстанцыі ў мяшках, хадзьба з кубкамі на галаве і іншыя.*

*Вельмі хутка праляцеў гэты цікавы дзень і трэба было вяртацца дамоў.*

Вучні III і IV класаў
школы ў Ласінцы.

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




На карцінках ад А да Е бачыш люстраны адбітак карцінкі ў левым верхнім вуглу. Толькі на адной карцінцы гэты адбітак правільны. Знайдзі яго.


„Ніва" 5.XI.1989 г. Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

